# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Востра-Брамская, № 9.

Год I. | Субота, 3 мая 1919 г. | № 3.


*Вільня, 2—V—19 г.*

У першы дзень мая пралетарыят усяго сьвету спраўляе сьвята.

У гэты дзень заціхаюць майстэрні і хвабрыкі.

У гэты дзень работнікі прыбіраюцца у лепшыя сьвяточныя вопраткі і наюць песьні аб волі і шчасьці.

У гэты дзень прыбіраецца вуліца ў чырвоны колер.

Бо ў гэты дзень работнікі сьвяткуюць пачатак свайго вызваленьня с-пад уціску капітала, што разам яўляецца пачаткам новага вольнага, брацкага жыцьця шчасьлівых людзей, шчасьлівых народаў, калі ня будзе паноў і хлопаў, сытых і галодных, дзяржаўных і забраных.

Здавалася, што гэткае жыцьцё ужо недалёка, што гэткае шчасьце ужо зусім надходзіць.

Пасьля таго, як мільёны пралетарыяў, мільёны бедных працоўных людзей пагінула на карысьць імперыялізма і капіталізма, шмат у каго з нашых братоў прасьвятлелі вочы, шмат хто зразумеў, што як пяецца у беларускай народнай марсельезі:

Ад веку мы спалі і нас рaзбудзілі,
Мы знали, што трэба рабіць:
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць.

Працоўная грамада спазнала, хто яе супраўдашні спрадвечны вораг і каго трэба пабіць.

І народы Расеі ськінулі царызм і абмежылі благую волю вялікага панства.

Праўда вымагае адзначыць, што зрабіў гэты ня толькі мястовы пралетарыят, але і селянін у салдацкім шынэлю.

Былі прагалошаны вялікія лозунгі аб правох чалавека і нацыі.



Усьведамленьне працоўнай грамады усяго сьвету ішло хутка наперад. Гэтаму памагаў голад, памагала здань сьмерці.

Здавалося, што вот-вот ужо, дзякуючы гэнаму усьведамленьню, стануць ў адзін шчасьлівы карагод усе нацыі сьвету і кожды чалавек будзе чалавеку не ваўком, а братам.

Так здавалася...

Але мусіць, шчэ мала усьведамілася працоўная грамада.

І на сёлетні пралетарскі Вялікдзень, на сёлетняе першамайскае сьвята нам давялося з вялікім смуткам, жалем, і болем праканацца, як далёка мы ад поўнай сьвядомасьці, як клясовай так і нацыянальнай у лепшым значэньні гэтых слоў.

І сяньні у нас не сьвята у пралетарыята, а хаўтуры, хаўтуры крывавыя, жудасныя.

Праўда, маўчаць майстэрні і хвабрыкі, але гэта—моўчкі могільніка, бо за іх грымяць арматы, трэшчаць кулямёты і бахаюць стрэльбы.

І работнікі прыбіраюцца ня ў лепшыя сьвяточныя вопраткі, а ў патронныя ленты.

І вуліца прыбіраецца у чырвоны колер чалавечай крыві, сьвежай, у гэтае сьвята разьлітай.

А па вялікаму абшару зямлі, дзе дыктатура пралетарыата, часовае, казалі нам, патрэбнае зло, горкія лекі чалавецтву, выраблілася, дзякуючы дактарам-канавалам, выраблілася на зьдзек над тым жа пралетарыятам, дзе на гэту дыктатуру сталі пазіраць як на што-сьці паўсёднае і самадаўлеючае, дзе далі волю зьвярыным інстынктам, там, на гэным вялікім абшару, пралетарскія дзеткі, і бацькі, і жонкі пахнуць з голаду, клянучы той пралетарскі устрой і шкадуючы аб старэй панскай няволі.

Якім крывавым, галодным, страшным прыйшло да нас сёлета гэтае сьвята.

Што мы бачым каля сябе?

У гэты дзень пралетарскае радасьці адна частка пралетарыята як затуканы зьвер, сядзіць, схаваўшыся, у сваіх пячорах і нарах і дрыжыць, баючыся брата-пралетарыя. Другая частка, упіўшыся, як чадам, дрэнным, не на яго пралетарскую галаву віном шовінізму і папраўдзе пакрыўджаная у сваім праве завадзіць лад у роднай хаце без няпрошанай паказкі чужынца, разьлівае сваю пралетарскую кроў за гэтае права. А трэцьція і чацьвертыя мусяць краіць сэрца бачучы, як чужынцы з аднаго боку і з другога боку топчуць і вынішчаюць зямельку бацькоў іх. А іншыя, нясучы гора і няшчасьце, галодную сьмерць пралетарыяту, пэўны, што толькі яны маюць манаполію на праўду і социалізм і што іх паслалі на сьмерць за радасьць, шчасьце і лепшае жыцьцё гэтага пралетарыяту.

Дзе-ж тое брацтва, дзе-ж тая роўнасьць і вольнасьць?

Сам Люцыпар рагоча у пеклі, захлібаецца ад крывавай радасьці...

**Вільня у поўнай бязпечнасьці**

**У Менску чырвоны тэррор.**

**Троцкі прыехау ратаваць фронт.**

**Дзе бальшавіцкія камісары?**

**Доля б. губэрнатара Вяроўкіна.**

О не, браты, шчэ надта а надта мала усьведаміліся мы! І як у праўдзівых дзікуноў лёгка меняюцца у нас думкі і пачуцьці. Як дзікуны, мы лёгка ймём веру уселякім авантурнікам, што дэкляруюць нам адразу рай на зямлі, калі мы толькі паслухаем іх і пойдзем за імі. Як дзікуны, мы лёгкаверна слухаем і йдзём, вельмі позна бачучы, што коштам нашае крыві робяцца адны авантуры. Мы забываемся, што лёзуг: „Здабудзем волю толькі сваймі рукамі“, што ён мае толькі адно, а не два і ня дзесяць значэньняў.

Дык будзем праўдзіва усьведамляцца.

Дык будзем жа сваім простым і шчырым работніцкім і мужыцкім розумам, сваімі мазалістымі рукамі здабываць новае жыцьцё і будаваць яго.

Будзем шанаваць у кождым с паміж сябе чалавека брата, роўнага і вольнага сына-грамадзяніна адраджонай Беларусі, бяз рожніцы веры і нацыі.

Абаронім сваю непадзельнасьць і незалежнасьць. Зможам нашых старых катаў с панскага боку і нашых новых кравасмокаў з боку спэкулянтаў хвальчывага комунізму.

Мы дружна устанем с касамі, сярпамі,
Прагонім зямлі палачоў,
Няхай нас сустрэнуць палямі, лесамі
Грамады працоўных людзёў!

# АБОЕ—РАБОЕ.

*Чем кумушек считать, трудиться, не лучше ли, кума, на себя оборотишься?*

Раней мы ужо пісалі, што бальшавіцкая Масква фактычна зрабіла падзел Беларусі, адарваўшы ад нас і далучыўшы да сябе усю Усходнюю Беларусь. Спакінутыя ж немцамі абшары Заходняе Беларусі на загаду Масквы былі далучаны да бальшавіцкае Літвы, каб павялічыць апошнюю і умацаваць так званую „Рэспубліку Літвы і Беларусі“.

Падзел быў зроблен без узякага сумленьня і сораму з боку комуністаў, так, што навет ня можна ім гэтага выбачыць іхнай ідэйнай фанатычнасьцю.

І аднак жа яны, ня чуючы сучка у сваім воку, ахвотна заўважаюць бярно у воку „братоў сваіх“—польскіх чарнасотнікаў-шовіністаў.

У № 10 бальшавіцкага „Жыцьця Нацыянальнасьцяў“ (Орган Народнага Камісарыята па справах нацыянальнасьцяў) знаходзім стацьцю аб „самаазначэньню наізнанку“ па рэцэпту паноў.

Тут цікава тое, што сьпецыяльны у гэтых справах орган робіць закіды паном, што яны перакручываюць самаазначэньне. Цікава дзеля таго, што усім жа ведама, як бальшавікі зламалі усе лёзунгі аб правох нацыяў, як яны заблудзіліся у трох соснах, кажучы аб сваім сучасным паглядзе на самаазначэньне, як Ленін не разумеў Бухарына, а той — Леніна, калі разгледалася нацыянальнае пытаньне на 8 зьездзе партыі.

Вось яны, тыя важнейшыя бальшавіцкія закіды паном:

«...Разам с тым цераз пасрэдства сваіх рэакцыйных выданьняў і нязьлічоных бюро і камітэтаў, разсеяных па ўсіх сталіцах Эўропы і Амэрыкі, паны пасыкаюцца давесьці, што далучэньне Літвы і Беларусі да Польшчы пакажацца ня толькі актам гістарычнай справядлівасьці, адбудаваньнем Польшчы у яе гіста-

